# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 11 (1505) ГОД XXX БЕЛАСТОК 17 САКАВІКА 1985 г. ЦАНА 8 зл.

## СЛУХАЙ І ГАВАРЫ

Ёсць што гаварыць,
Ды няма каму слухаць.
Лес нецярпення гарыць,
А навокал — глухасць.

А што гаварыць,
Калі
Гаваруны шчаслівыя
Самі сябе звялі,
Далёка іх завялі
Маўклівыя.

А што маўчаць,
Калі
Баляць не на языку
мазалі,
А смыліць душа,
Што ўсім давярала
спярша,
Ды на яе лілі
Брагу з таго каўша,
З якога звады
Ваду пілі.

І пакарчаваўшы
Здрады карчы,
Не маўчы.
І пабыўшы ў віры,
Гавары,
Як крычаць не ўмееш,
Бо анямееш.

І застаўшыся сам-насам
Са скрухай,
Сам сябе слухай!

**Рыгор Барадулін**



На пакудзеллі. Фота М. Гайдука.

## З ЧАРГОВАГА З'ЕЗДА КАРЭСПАНДЭНТАЎ

У вельмі сямейнай, сімпатычнай атмасферы 21 лютага адбыўся чарговы з'езд карэспандэнтаў „Нівы". З'ехаліся самыя актыўныя, можна сказаць, зжытыя з рэдакцыяй змагары за праўду, справядлівасць, за беларускую справу, за чысціню і годнасць чалавека. Гэта іх матэрыялы ў „Ніве" парушаюць найбольш балючыя справы, гэта яны найчасцей крытыкуюць выпадкі ганебных адносін некаторых працаўнікоў і ўраднікаў да наведвальнікаў і наогул да людзей.

Значная частка нашых карэспандэнтаў можа залічыць сябе да старых і вельмі каштоўных супрацоўнікаў рэдакцыі. Яны ўмеюць бачыць і вырашаць важныя грамадскія праблемы. Іх артыкулы, нярэдка і цэлыя цыклы, ужо даўно сталі пастаяннымі бывальцамі на старонках „Нівы".

## НЕСПАКОЙНЫЯ, НЕПАСЕДЛІВЫЯ

Карэспандэнтаў вітала рэдактар Вера Валкавыцкая, сталая апякунка пачынаючых карэспандэнтаў. Яна вельмі высока ацаніла ролю карэспандэнтаў у набліжэнні нашай газеты да людзей з рознага асяроддзя. „Карэспандэнты, — гаварыла яна, — гэта найглыбейшая крыніца мясцовых праблем. Іх крытыка мясцовых недахопаў найбольш будуючая. Карэспандэнты выконвалі і выконваюць сваю працу вельмі старанна, з поўнай адказнасцю і добра. Вельмі багатая тэматыка іх матэрыялаў. Так трэба працаваць і далей."

Першым выступіў адзін са старэйшых гадамі карэспандэнт „Нівы" Эдвард Шчасновіч. Дзядзька ўжо немалады і, як сам казаў, цяжкавата яму было выбрацца ў такое падарожжа ў дваццаціградусны мароз (едзе поездам). Але вырашыў прыехаць, бо для яго гэты год супрацоўніцтва з „Нівай" юбілейны год дзесяцігоддзя. Да гэтага часу ў „Ніве" было надрукавана 110 яго артыкулаў і 17 рэплік на іншыя матэрыялы. Але дзядзька піша пад псеўданімамі, таму чытачам яго прозвішча мала знаёма.

Валянцін Семянюк прапанаваў назваць сёлетні з'езд сяброўскай сустрэчай, бо прыехаў авангард карэспандэнтаў, тыя, што лічаць беларускую мову святасцю і не могуць прамінуць

(Працяг на стар. 4)

## З рэпарцёрскіх запісак

Знаёмы святар, настаяцель царквы ў **Фастах**, айцец **Анатолій Гутоўскі** нядаўна запрасіў мяне на супольную паездку па Беласточчыне з яго падапечнымі дзецьмі.

— Дзецям з Фастаўскага прыходу, — паясніў ён, — рашыў я наладзіць экскурсію ў **Белавежу** — з прыпынкамі па дарозе ў **Зверках, Заблудаве** і **Гайнаўцы**, каб дзеці з маёй падбеластоцкай парафіі змаглі навочна пераканацца, што жывём мы сярод сваіх, сярод беларусаў і праваслаўных. Я ім раскажу аб цэрквах, аб нашай праваслаўнай спадчыне, а ты пазнаёміш іх, вядома, у даступнай форме, з праблемамі і дасягненнямі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

*

**Ідэя мне спадабалася і я ахвотна выгаспадарыў сабе адзін свабодны дзень, каб правесці яго з дзецьмі з вёскі Фасты.**

Такім чынам завязалася ў нас нефармальнае пагадненне аб духоўна-свецкім супрацоўніцтве ў галіне нацыянальнага выхавання беларускіх дзяцей.

Я глыбока перакананы ў патрэбе такога пагаднення ў шырэйшым маштабе. Якраз такое супрацоўніцтва даўно ўжо ўсім нам патрэбнае, у першую чаргу яно патрэбнае Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству, якое безупынна, але, на жаль, беспаспяхова змагаецца за пашырэнне навучання беларускай мовы ў школах. Ці не варта ў гэтай галіне мець на сваім баку такога ўплывовага памагатага, як праваслаўнае духавенства?

## ПАТРЭБНАЕ ПАГАДНЕННЕ

**Ва ўмовах, у якіх мы зараз жывем, пры ўсёахопліваючым** уздзеянні на псіхіку дзіцяці масавай культуры, тэлевізійнага выхавання, нацыянальная адметнасць нашых дзяцей і ўнукаў падае. Якраз найменш паддаецца асіміляцыі прыналежнасць да праваслаўя.

*

Ведаю, што рэлігійная і нацыянальная прыналежнасці — гэта дзве розныя справы. Для прыкладу, Янка Купала, самы магутны прадстаўнік беларускай паэзіі, паходзіў з каталіцкай сям'і. Яго сябар па пяру і змаганню Якуб Колас меў бацькоў праваслаўных.

У нас на Беласточчыне і па цэлай Польшчы, усё часцей сустракаюцца людзі, якія з пераканаfamнем гавораць пра сябе, што яны — **праваслаўныя палякі.**

Іх справа. Але з гэтага для нас, беларусаў, вывад такі, што не хопіць **нарадзіцца** ў беларускай праваслаўнай сям'і, трэба яшчэ **выхаваць** чалавека, свядомага сваёй нацыянальнай прыналежнасці.

(Працяг на стар. 7)

НА МЯЖЫ

# АБ НЯВЫКАРЫСТАНЫХ ШАНЦАХ

**Частка I**

У даваеннай Польшчы беларусы былі, несумненна, грамадзянамі другой катэгорыі. У сувязі з тым, што сярод усіх праслоек тагачаснага грамадства сялянства жыло ў найгоршых варунках, буржуазная дзяржава старалася якраз у рамках гэтага паднявольнага класа ўтрымаць беларусаў. Праўда: пэўная частка беларусаў атрымоўвала працу на чыгунцы або перыядычна наймалася да розных заняткаў у акалічных памешчыкаў ці купцоў. Іх фінансавая сітуацыя была вельмі мізэрная і, калі толькі прыходзіла беспрацоўе, яны якраз станавіліся першымі яго ахвярамі. Зусім нязначнаму працэнту беларусаў удавалася пранікнуць у сярэднія ці вышэйшыя школы, якія адкрывалі дарогу ў зусім новую, інтэлігенцкую грамадскую праслойку. Аднак колькасць беларусаў-інтэлігентаў была такая малая, што на тысячныя масы прыпадаў адзін беларус — настаўнік, чыноўнік ці лекар.

Пасля другой сусветнай вайны ў Народнай Польшчы былі ліквідаваны ўсе даваенныя рэлігійныя, класавыя і нацыянальныя абмежаванні. Дзякуючы гэтаму вялікія масы беларусаў хлынулі з сялянскага класа у іншыя грамадскія праслойкі. Апынуліся яны там, дзе іх ніколі ў Польшчы не было, напрыклад, у пракуратуры, міліцыі, у навуковых установах, і раз'ехаліся па ўсёй Польшчы. Змяніўся радыкальна класавы пейзаж Беласточчыны. Тут, у раёнах, заселеных беларусамі ды і не толькі, беларусы апынуліся і ў адміністрацыі, і сярод настаўніцтва, і сярод рабочага класа, і ў палітычных ці грамадскіх арганізацыях. І сёння няма ў Народнай Польшчы ніводнай галіны гаспадаркі: гандлёвай, адміністрацыйнай, навучальнай ці палітычнай сферы, у якой не было б беларусаў. І толькі чалавек з выключна злой воляй мог бы сказаць, што беларусы не карыстаюцца ў нашай краіне з поўнага раўнапраўя і эмансіпацыі.

І што прынесла беларусам такая сітуацыйная змена? Прынесла радыкальную перамену матэрыяльнага ўзроўню жыцця. Праяўляецца гэта, між іншым, у тым, што ў кожную, найбольш захудалую лясную вёску ў кожную пятніцу ці суботу імчаць з гарадоў легкавыя машыны. Часта на адным вясковым panадворку стаяць побач „фіяты", „лады", „малюхі", „запарожцы". Гэтымі машынамі прыязджаюць да бацькоў або да свёкраў беларусы-настаўнікі, беларусы-навукоўцы, беларусы-лекары, беларусы-шахцёры, беларусы-інжынеры, беларусы-пракуроры, беларусы-святары, беларусы-партыйныя дзеячы. Як правіла, з такіх машын вывальваецца не толькі першая гістарычная гене-

(Працяг на стар. 8)



## ЗАВОД ДЛЯ АЎТАЗАВОДАЎ

На ўскраіне Жодзіна па суседству з Беларускім аўтамабільным заводам узняліся карпусы новага прадпрыемства — кавальскага завода цяжкіх штамповак.

Вялікую колькасць штамповак і паковак, неабходных беларускім аўтамабілебудаўнікам для вытворчасці „БелАЗаў" і „МАЗаў", пастаўляюць з дзесяткаў гарадоў краіны. Гэта ўплывае на сабекошт аўтамашын, а часам і стрымлівае рост іх вытворчасці. Цяпер большую частку неабходнай аўтамабілебудаўнікам прадукцыі будзе выпускаць новы завод, які ўвайшоў у аб'яднанне „БелаўтаМАЗ".

Першая чарга кавальскага завода здадзена ў эксплуатацыю год назад. Цяпер уступіла ў строй другая чарга завода. Калі прадпрыемства выйдзе на праектную магутнасць, тут будзе выпускацца штогод 118 тысяч тон дэталей для беларускіх аўтамашын.

## РЭСТАЎРАТАРЫ З ДВОРЫШЧА

Краязнаўчым музеем стала сярэдневяковая каменная вежа каля беларускай вёскі Дворышча Лідскага раёна. Мясцовыя ўмельцы адрамантавалі старажытнае збудаванне, надаўшы яму першапачатковы выгляд.

У залах музея — старажытныя прылады працы і прадметы сялянскага быту, партызанскія і франтавыя рэліквіі, матэрыялы, што расказваюць пра сённяшнія поспехі працаўнікоў саўгаса „Ніва".

Дварышчанскія майстры адраджаюць і старадаўні каменны млын, што стаіць побач з вежай. Сталяры і цесляры, самадзейныя мастакі ўпрыгожваюць залы разьбой па дрэву, афармляюць у народным стылі інтэр'еры. Пасля рэстаўрацыі ў будынку размесціцца дом грамадзянскіх абрадаў, кафэ і бар.

## СПОРТ

■ Футбалісты зборнай СССР у фінальным матчы IV міжнароднага турніру на Кубак імя Джавахарлала Неру з лікам 2:1 нанеслі паражэнне камандзе Югаславіі і заваявалі галоўны прыз. Голы забілі мінчане Сяргей Алейнікаў і Георгій Кандрацьеў.

Акрамя іх за каманду СССР выступалі Андрэй Зыгмантавіч, Сяргей Гоцманаў з мінскага „Дынама".

■ Чэмпіянат Савецкага Саюза па канькабежнаму спорту, які адначасова быў адборачным да першынства свету, завяршыўся бліскучай перамогай беларускага скарахода Ігара Жалязоўскага.

Ён першынстваваў на трох дыстанцыях з чатырох. У суме многабор'я Ігар Жалязоўскі набраў 153,855 ачка.

■ На міжнародных спаборніцтвах па класічнай барацьбе памяці Івана Паддубнага ў Ленінградзе ўпэўнена выступіў мінчанін Міхаіл Пракудзін. Ён перамог усіх сваіх сапернікаў і заняў першае месца.




Eugeniusz Borowski — Działalność księży pijarów w Drohiczynie nad Bugiem (1774—1845). „Studia teologiczne" (Białystok), R. 1983, T. 1, s. 239—282.

Maria Putrament — W Grodnie z Uładzimirem Karatkiewiczem. „Przyjaźń" (Warszawa), R. 1984, Nr 52, s. 12—13.

Irena Kosztyła — Wyzwolenie Białostocczyzny w dokumentach i zdjęciach. „Za Wolność i Lud" (Warszawa), R. 1984, Nr 40, s. 9.

Al. Aniszczyk — W promieniach Wileńskiej Szkoły Sztuk Pięknych — Piotr Siergijewicz (1900—1984). „Czerwony Sztandar" (Wilno). Nr 300 z dn. 30.XII.1984 r

Izabela Ratman-Liwerska — Działalność oświatowo-wychowawcza stowarzyszeń kobiecych (w woj. białostockim). „Oświata Dorosłych" (Warszawa), R. 1984, Nr 3, s. 143—146.

Adam Dobroński — Szkoły handlowe w Białymstoku (do 1914 r.). „Zeszyty Naukowe Filii UW w Białymstoku". Z. 40 Humanistyka. Dział H — Prace historyczne. R. 1984, T. 7, s. 33—64.

Andrzej Byczkowski, Andrzej Ciepielowski — Stosunki hydrologiczne w województwach: białostockim, łomżyńskim i suwalskim. „Gospodarka Wodna" (Warszawa), R. 1984, Nr 4, s. 99—102.

Krystyna Kucharska, Jan Tyszka, Andrzej Ciepielowski — Rola lasów w wyrównaniu odpływu z małych zlewni w północno-wschodniej Polsce. Jak wyżej, s. 107—110.

Bazyli Niedźwiecki — Bielsk Podlaski nie jest wyjątkiem. Co zrobić, aby (nauczyciele) zostali w szkole. „Głos Nauczycielski" (Warszawa), R. 1985, Nr 1, s. 8.

Jadwiga Malinowska, Stanisław Gadomski (zdjęcia) — Na stykach dwóch kultur Klejnot kultury polskiej (Ikony). „Panorama" (Katowice). R. 1985, Nr 1, s. 32.

Krzysztof Krasowski — Prawosławie w II Rzeczypospolitej. Spory i konflikty. „Przegląd Tygodniowy" (Warszawa), R. 1985, Nr 2, s. 10.


**П. Байко**

НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

Кажуць, што змяя мяняе скуру, але не мяняе натуры. А яна ў Штрауса наскрозь „карычневая". Ледзь не з пялёнак Франц, тады яшчэ без дадатку „Йозеф" (ён яму спатрэбіўся, каб стаць цёзкам аўстрыйскага імператара) далучыўся да нацызму. У трыццатых гадах ён расклейвае на вуліцах фашысцкія лістоўкі, „гітлерюгенд". Потым крывавая „прагулка па Польшчы і Францыі, — чын лейтэнанта вермахта. Сталінград — абмарожаныя ногі. Уратаваўшыся ад савецкага палону, Штраус робіцца „рэферэнтам" фашысцкай ідэалогіі сярод недабітых заваёўнікаў і становіцца „оберлейтэнантам". Адчуўшы блізкі канец нацызму, ідэйны баец фюрэра, напляваўшы на прысягу, уцёк з часці і, схаваўшыся ў паграбе ў ксяндза, баязліва чакаў, чым усё скончыцца.

Ацаніўшы сітуацыю, ён мяняе арыентацыю і ідзе ў служкі да сваіх нядаўніх ворагаў. Прыгрэў пярэвараценя рэзідэнт амерыканскай разведкі (ён жа прадстаўнік амерыканскай авіякампаніі „Локхід" у Заходняй Еўропе) Хаузер. Працуючы ў Хаузера перакладчыкам, Штраус выконваў і больш „далікатныя" даручэнні новых гаспадароў. У прызатнасці, ён падбіраў для свайго патрона прыгожанькіх жанчын. Калі ж тая ці іншая прыгажуня працівілася жаданням сексуальных „гангстэраў", то яе кідалі ў камеру былога гестапа.

Прынцыпы амерыканскага ладу жыцця і лакейская адданасць Штрауса не засталіся незаўважанымі. У 1946 годзе ён пры дапамозе заакіянскіх заступнікаў становіцца членам праўлення баварскай ультрарэакцыйнай партыі хрысціянска-сацыяльнага саюза (ХСС), а праз два гады — яе генеральным сакратаром.

Паступова Штраус рыхтуе сябе да ролі лідэра Заходняй Германіі, узяўшы на ўзбраенне фашысцкія канцэпцыі антыкамунізму і рэваншызму.

Быццам мюнхенскі „Фігара", кідаўся Штраус па ўсім свеце. усюды, дзе патрабавалася дапамагчы правым і фашыстам парадай і цвёрдай валютай, пэўныя запасы якой ёсць у падапечным яму славутым „Фондзе Ханса Зэйдэля".

# СЛУЖКА ДВУХ ПАНОЎ

З дапамогай амерыканцаў Штраус займаў самыя адказныя пасады ў дзяржаве. Ён быў міністрам фінансаў, абароны, па атамных пытаннях. І ўсюды, дзе быў, пакінуў свае брудныя сляды.

У выніку дзейнасці Штрауса Баварыя ператварылася ў „залатое дно" для фабрыкантаў зброі. Усёмагутная група босаў ваеннага бізнесу Заходняй Германіі ацаніла яго „заслугі" і, як і неанацысты, вось ужо многа гадоў робіць стаўку на яго ў рызыкоўнай для свету палітычнай гульні.

У знак павагі верхаводы Баварыі пасвячаюць Штрауса ў рыцары нямецкага ордэна, а бізнесмены „Локхід" зрабілі яго „ганаровым каўбоем Тэхаса." Яны ж арганізавалі яму і вясёлае турнэ па Амерыцы ў кампаніі галівудскіх актрыс і прастытутак. Праўда, яно закончылася для яго канфузам — новаспечанага каўбоя начыста абакралі „жрыцы кахання". Аднак гэта не пахіснула „самаахвярную" любоў нямецкага рыцара да „крыжаносцаў". Ён скарыстоўвае літаральна ўсялякую магчымасць, каб прадэманстраваць сваю жывёльную нянавісць да сацыялізму, і часта заходзіць куды далей за сваіх заакіянскіх гаспадароў.

На з'ездзе ХСС, які нядаўна адбыўся ў Мюнхене, Ф.Й. Штраус і Г. Коль у адзін голас заяўлялі, што „германскае пытанне" застаецца адкрытым і „нямецкая айчына ахоплівае тэрыторыю ў межах „германскага рэйха 1937 года". Аднак Штраус пайшоў далей. „Я не для таго 13 гадоў змагаўся супраць гэтай усходняй палітыкі, каб на чатырнаццаты год прыняць яе!"

Такая пазіцыя болей задавальняе мілітарыстаў у ФРГ і за акіянам. Яны ўпэўнены, што іх адданы служка лепш, чым хто-небудзь іншы, справіцца з роллю магільшчыка разрадкі. Яны прыспешваюць падзеі. Спяшыць і служка паноў Франц-Йозеф. Нібы заклінанне, паўтарае ён узятае ў Голсуарсі выслоўе: „Жыццё — гэта шэраг прыпынкаў, дзе мы або паспелі сесці на свой цягнік, або спазніліся..." Штраус баіцца спазніцца. Але думаецца, што гісторыя зноў рашуча скажа: „Злазь, гер Штраус, прыехаў!"

**К.Ч.**

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Вера ў магічнае ўздзеянне слова на членаў сям'і значна ўзвялічвалася ў момант паяўлення ў данай сям'і нованароджанага дзіцяці. Існавала перакананне, што далікатны арганізм немаўляці вельмі падатлівы на ўсякае зло, якое можа быць вынікам выказанага слова. Жыхар вёскі Семяноўка Язэп Буйко такім чынам характарызуе гэтую з'яву:

„Усё залежыт ад таго, хто скажэ такое або секое слово. Калі добры чалавек, то вон што б ні сказаў, то нічого кепского не станецца. Калі нават такі чалавек возьмэ і выругаецце, бо бывае і такое — найчасцей, калі баба вывадзе з нерваў, — або возьмэ і чорта ўспамане, то і так будзе ўсё ў парадку. Бо вадомо, што чорт становіцца на паслугу злого чалавека, а не добраго. Таму не трэба баяцца слоў добраго чалавека, але бойся як можаш чалавека ўрэднаго. О, калі такі табе закліне або чорта чы якуюсь там хваробу, хоць бы халеру, прыклічэ, то можэш быць пэўны, што ўкіне табе ў сем'ю якусь пякучку, якісь такі агонь, з якога цяжко выкарабкацца. Вано вадомо, што старому ні заўшэ зашкодзіт, але малому вэльмі лёгко зрабіць зло, а найлягчэй, калі вано яшчэ не ахрышчанэ. Або гэто раз вано было такое, што дзіця і здаровэ і васёлэ, аж тут глядзь ужэ бляе, ужэ душыцца, ужэ сінее. А ўсё гэта з чаго? Або з кепскіх вачэй або ад урэднаго слова".

Многія са старэйшых вясковых жыхароў розных раёнаў усходняй Беласточчыны падкрэсліваюць, што ў тых хатах, дзе нарадзілася дзіця, усе члены сям'і стараліся пазбягаць усякіх слоў, якія былі звязаны з сатанічнымі сіламі, хваробамі, праклёнамі і ўсякімі адмоўнымі здарэннямі. Калі, скажам, хтосьці з членаў сям'і мімавольна выказваў такое слова, якое ў разуменні ўсіх іншых магло зашкодзіць нованароджанаму, зараз жа прымушалі яго сказаць „не тут кажучы". Гэтае „не тут кажучы" было свайго роду антыдотумам, нейтралізуючым, перакрэсліваючым, або поўнасцю ліквідуючым магчымае ўздзеянне раней сказанага неўласцівага слова.

„Бывало не раз, — успамінае жыхарка вёскі Лука Анна Садоўская, — калі я была яшчэ малая, што возьмэш і штось там ляпнеш. От хоцьбы халеру або чорта ўспомніш. А тут кала цябэ малое ў калысцы лежыт. Ой, ужэ тады дадут мама або тата, ой дадут. Нават прымушалі выплеваць, памыць рот і пяражагнаць яго. Калі ўжэ так зробіш, то было вадомо, што тое кепске слово ніякае шкоды не зробіт і малому не зашкодзіт. І падругому і не можно было, бо вадомо, што ад злого слова магла ўсякая бада нарабіцца і то такая, катору толькі шаптуха магла зняць. Бо вано вадомо, што злое, паходзячэ ад слова, найлягчэй было вылечыць словом".

Апошні сказ выясняе ўсю істоту народнай веры ў сілу слова. Ідэя супрацьстаўлення слова слову гэта свайго роду фундаментальная праслойка ўяўленняў і звязанай з ёю народнай „медыцыны". Праявілася яна найпаўней у разбудаванай сістэме замоваў і малітваў, заданнем якіх была ліквідацыя тых адмоўных вынікаў, якія выклікалі ў арганізме дзіцяці злыя чалавечыя вочы або злыя словы.

Вера ў слоўную магію складае істотную галіну радзільнахрысціннага фальклору і абраднасці.

**А. Баршчэўскі**

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

*Дарагія сябры!*

*Пішуць вам бацькі Героя Савецкага Саюза Фларэнкі Аляксея Васільевіча.*

*Набліжаецца 40-годдзе вызвалення Польшчы ад фашысцкай чумы. Наш сын загінуў пры вызваленні Гайнаўкі. У гэтым горадзе пабудавана прыгожая школа, якой прысвоена імя Аляксея Фларэнкі. На брацкіх могілках, на надгробнай пліце магілы нашага сына заўсёды ляжаць кветкі, пакладзеныя чулымі рукамі, вучнямі школы, якая носіць яго імя. Такую ж карціну мы бачылі ў Польшчы і на іншых брацкіх магілах савецкіх воінаў.*

*Асаблівыя словы ўдзячнасці мы хочам выказаць быламу дырэктару школы № 2 у Гайнаўцы, якая носіць імя нашага сына, цяпер настаўніку рускай мовы Пятру Міхайлавічу Гіншту, які вядзе з намі перапіску вось ужо 18 гадоў, ад 1965 года.*

*Да нас прыходзяць пісьмы, фатаграфіі, альбомы, якія прысылаюць Пётр Міхайлавіч і яго вучні. Штогод у пачатку навучальнага года мы атрымліваем 60-80 пісем ад вучняў гэтай школы. Вось гэта і ёсць савецка-польская дружба. Усе пісьмы, што мы атрымліваем, перадаем вучням школ горада Пермі, якія перапісваюцца з вучнямі школы № 2 у Гайнаўцы.*

*Мы зноў і зноў успамінаем аб душэўнасці і дабрыні да дзяцей настаўніка рускай мовы Пятра Міхайлавіча Гінштa, які робіць вялікую выхаваўчую работу сярод моладзі.*

*Вельмі просім вас апублікаваць наш ліст. Вялікае дзякуй Пятру Міхайлавічу Гіншту за ўважлівасць і клопаты ў выхаванні моладзі, за яго ўклад у развіццё савецка-польскай дружбы.*

*Бацькі Героя Савецкага Саюза*
*Фларэнка Клаўдзія Мікалаеўна і Васіль Мінаевіч*

*Наш адрас: СССР, 614039, гор. Пермь, ул. Белинского, 49-71.*

## ТУРНІР ВЁСАК

Бельская гміна правяла чацвёрты турнір вёсак. 24 лютага ў стражацкай рамізе ў Аўгустове сабралася звыш 250 удзельнікаў. Спаборнічалі вёскі: Відава, Плёскі, Гацькі, Аўгустова, Райск, Пілікі. Адбываліся наступныя гульні-спаборніцтвы: „Згадуй-згадуля" на тэму „Кожны грамадзянін змагаецца з пажарам", рубанне дроў адной рукой, мастацкае прадстаўленне сваёй вёскі — народныя прыпеўкі, вязанне на прутках (сярод дзяўчат), забава ў вольны час, танец на газеце.

У камандным заліку перамагло Відава, перад Аўгустовам і Плёскамі. Быў кубак за першае месца і дыпломы іншым удзельнікам. Потым да поўначы адбывалася дыскатэка.

**Андрэй Гаўрылюк**



Ткацкія вырабы з ваколіц Дубровы Беластоцкай. Фота М. Гайдука.

# ГАРУН

Калі я збіраўся ў Кракаў, Сакрат Яновіч сказаў мне: „Пашукаў бы ты магілку Прушынскага. Ён дзесьці там ляжыць, на Ракавіцкіх могілках".

Прыгожыя Ракавіцкія могілкі. Яны амаль такія кракаўскія, як вежы Марыяцкага касцёла ці Сукенніцы. На працягу 180 гадоў існавання Ракавіцкія могілкі прынялі тысячы нябожчыкаў, у тым ліку вялікіх вучоных, артыстаў, жаўнераў дзвюх сусветных войнаў. Ляжаць тут: Ян Матэйка, знакаміты мастак, Люцыян Рыдэль, паэт, Галена Маджэеўская, славутая актрыса, і цэлыя сем'і Косакаў (мастакоў) і Эстрэйхераў (кнігазнаўцаў). Як жа прабраўся сюды Алесь Гарун, бедны паэт беларускага народа?

Нарадзіўся ён 11 сакавіка 1887 г. у Мінску, на Багадзельнай вуліцы, як сын Уладзіміра Прушынскага і Софіі (з роду Жывіцаў). Аб сям'і Прушынскіх маем мала, ды й спрэчных, звестак. М. Гарэцкі называе Уладзіміра „чорнарабочым" і піша, што бацькі паэта былі „тыповыя прадстаўнікі працоўнай прастанароднай грамады мінскіх беларусаў-каталікаў, спрадвечных жыхароў-жыцельнікаў места". У БСЕ напісана, што паэт нарадзіўся ў сям'і рамесніка. Н. Вакар залічвае яго ў паэты сялянскага паходжання, спасылаючыся на І. Дварчаніна. М. Багдановіч піша аб Гаруне: „селянін, столяр". Прозвішчы бацькоў паэта і каталіцкае веравызнанне пазваляюць дадумацца, што Прушынскія гэта былі збяднелыя шляхцюкі, якія пасяліліся ў горадзе.

Жылі Прушынскія бедна, але клапаціліся аб адукацыі таленавітага сына, які ўжо ў пяць гадоў чытаў па-польску і па-руску. Скончыў Алесь рамесніцкае вучылішча на дрэваапрацоўчым аддзяленні і ад шаснаццаці гадоў жыцця працаваў па розных майстэрнях столярам. Нейкі час быў мадэльнікам на фабрыцы Івана Шышлы. Увесь час шмат чаго чытаў, папаўняючы адукацыю як самавук. Да пісання вершаў меў талент ужо змалку, але пісаў па-руску і пераважна ў гумарыстычным тоне.

У 1904 г. Прушынскі ўвайшоў у мінскую арганізацыю сацыялістаў (максімалістаў). Арганізаваў моладзь у вучнёўскія гурткі, вёў прапаганду сярод рабочых і, часам, на вёсцы... З уваходам у партыю эсэраў ягоная творчасць прыняла сур'ёзны і рэвалюцыйны кірунак. У 1905 пачаў пісаць па-беларуску, штуршком да чаго была, безумоўна, першая сустрэча з беларускім друкам — у 1904 г., калі ў ягоныя рукі папала абдзёртая, запэцканая кніжка, без пачатку і канца, надрукаваная лацінкай. Пачаў яе чытаць, думаючы, што яна польская. Якое было яго здзіўленне, калі зразумеў, што гэта сваё, роднае слова. Ажно слёзы закруціліся ў вачах паэта. Пазней Гарун даведаўся, што гэта было старое выданне аповесці „Гапон" В. Дунін-Марцінкевіча, аднаго з пачынальнікаў новае беларускае літаратуры. У 1905-1906 гадах Гарун напісаў некалькі сацыяльна-рэвалюцыйных вершаў, якія пашыраў сярод моладзі і рабочых. Вершы гэтыя зараз загублены. Наладзіў таксама супрацоўніцтва з беларускім адраджэнчаскім рухам. Пашыраў вершы і адозвы Цёткі (Алаізы Пашкевіч) і „Нашу ніву".

У лютым 1907 г. паліцыя накрыла паэта ў нелегальнай эсэраўскай друкарні. Яго арыштавалі, пасадзілі ў асобную камеру ў мінскай турме і аддалі пад суд. Пасядзеўшы ў мінскай вязніцы, а потым на Лукішках у Вільні, у 1908 г. Прушынскі быў засуджаны на катаргу, якую замянілі пасля на ссылку. Саслалі яго ў Кірэнскі павет Іркуцкае губерні. Спачатку жыў у невя-

(Працяг на стар. 4)



**— Ты часцей жартуй, Грыша, — кажа Уладзімір Сідарук Г. Марозу. — У цябе гэта добра выходзіць.**

дзею, што ўсе парушаныя на з'ездзе справы адлюструюцца ў матэрыялах карэспандэнтаў. Вырашана было таксама „абмыць кроплямі жывой вады" рубрыку „Якія мы людзі".

Падабалася таксама прапанова рабіць наступныя з'езды ў розных мясцовасцях. І на пачатак — сабрацца праз год у Белавежы.

Дык — да сустрэчы ля вогнішча!

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

У рэдакцыю дайшлі чуткі, што не ўсе чытачы ведаюць. як можна стаць карэспандэнтам „Нівы". А гэта вельмі проста. Хопіць прысламць да нас сваю ўласную інфармацыю аб жыцці ў вашым асяроддзі, парушаючы нейкую важную справу, якая памагае або перашкаджае людзям жыць і працаваць. Можна апісваць усё добрае, што дзеецца вакол вас, а можна і пакрытыкаваць, калі нехта гэтага заслугоўвае.

Пісаць можна сур'ёзна, можна з гумарам, хто як больш любіць. Пішыце, як хто ўмее. Галоўнае — праўдзіва, адважна і шчыра.

# АГЛЯД У ГАЙНАЎЦЫ

**Раённы агляд беларускай фальклорнай песні ў Гайнаўцы, нядзеля 17 лютага б.г. Вялікая зала Гайнаўскага дома культуры шчыльна запоўнілася публікай.**

**У параўнанні з мінулагоднім аглядам многа змянілася тут. На гэты раз жыхары горада прысутнічалі на добра падрыхтаваным і цікавым канцэрце. На сцэне выступілі жаночыя калектывы з Арэшкава, Дашоў, Міклашэва, Нараўкі, Тыневіч, Чаромхі і адно трыо з Тыневіч. Было два дуэты: з Тыневіч і Дашоў, а таксама тры салісткі: Люба Салінская з Чаромхі, Міраіда Садоўская з Васькоў і вучаніца Уршуля Іванюк з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. На жаль, не спяваў ніводзін мужчына. Ці на Гайнаўшчыне мужчыны не ўмеюць спяваць?**

Конкурсная частка была даволі кароткая. Удзельнікі выканалі па дзве падрыхтаваныя на агляд песні. Пакуль журы ацэньвала іх выступленні, на сцэне надалей выступалі спявачкі, на гэты раз ужо з рознымі песнямі. Публіка часта бурнымі апладысментамі дзякавала і выклікала на бісы.

З прамовай выступіў таксама член Прэзідыума ГП БГКТ дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя мгр Аляксандр Іванюк. Падзякаваў выканаўцам за ўдзел і гледачам за цёплы прыём. У некалькіх словах расказаў гісторыю аглядаў беларускай песні, арганізаваных таварыствам. Падкрэсліў, што неабходна працягваць гэтую традыцыю. Звярнуў таксама ўвагу на праблемы ў мастацкай самадзейнасці, на недахоп дапамогі аматарскаму культурнаму руху. Пажадаў самадзейным спевакам далейшых поспехаў у беларускіх аглядах.

На канец агляду выступіў мгр. Аляксандр Лукашук, які прачытаў пастанову журы.

Сярод калектываў І месца прызнана жанчынам з Дашоў за выкананне песні: „Ой, хотіела мэнэ мать" і „Ой, дэ явор круты...", ІІ месца падзялілі калектывы з Міклашэва і Тыневіч, а ІІІ месца — калектывы з Арэшкава і Нараўкі. Сярод дуэтаў І месца занялі — Зофія Кердалевіч і Мар'я Міцэвіч з Дашоў, а ІІ месца Валянціна Леўчук і Ніна Савіцкая з Тыневіч. Найлепшай саліcткай была Уршуля Іванюк, ІІ месца падзялілі Люба Салінская і Міраіда Садоўская.

Гайнаўскі агляд беларускай фальклорнай песні быў багаты добрымі галасамі. На сцэне спявалі вядомыя ўжо калектывы, як з Арэшкава, ці Тыневіч, а таксама новыя людзі. На самадзейнай ніве з'явіліся маладыя дзяўчаты з Нараўкі пад мастацкім кіраўніцтвам Мікалая Варанецкага. Нягледзячы на дэбют, выступілі яны добра. Цешыць такая з'ява і пажадайма ім далейшай вытрымкі. Найбольш спадабалася прысутным выступленне вучаніцы Уршулі Іванюк з Гайнаўскага беларускага ліцэя. Спявала яна, акампаніруючы сабе на раялі. Таленавітая гэта дзяўчына і напэўна яшчэ не раз будзем захапляцца песнямі ў яе выкананні. Вельмі прыгожа спявалі таксама жанчыны з Дашоў: і ў калектыве, і ў дуэце. Адчувалася мастацкая дапамога музычнага інструктара Аляксандра Лукашука. Трэба падкрэсліць, што вядзе ён паспяхова і гайнаўскі хор. Добрае ўражанне зрабілі таксама выступленні і іншых удзельнікаў, для прыкладу, жартоўныя песні салісткі Любы Салінскай з Чаромхі.

Шкада толькі, што дэкарацыя сцэны не перадавала беларускага настрою.

Можна сказаць, што было гэта адно з лепшых мерапрыемстваў на культурнай ніве нашага асяроддзя.

**Ян Мордань**




**ШЫВАРАТ-НАВЫВАРАТ**

— Ай, дзед, непаседа ты, — кажу суседу Ільюшку Марозу. — Заўсёды на нагах. Пэўна, сто год хутчэй дагнаць хочаш?

— Добра было б, — усміхаецца стары. — Ведаеш, цяпер з нагамі не тое, што даўней было, падпірацца трэцяй мушу. А ў краму абавязкова трэба, піўца папіць хачу.

— Хоць і стары, дзедку, а піўцо любіце.

— Люблю, люблю, яшчэ і як. Пасля яго так цёпла робіцца. А што мне больш засталося? Амаль восемдзесят пяць годзікаў пражыў. Нямала. І на кані і пад канём быў. У малалецтве бацькі шкадавалі, вядома, адзін сын. Рабіў, што хацеў. Падрос, тым больш даў сабе волю. Адных жонак пяць меў. А на слова — колькі хацеў. Бывала, што і па дзве ў хаце.

— І не сварыліся?

— А дзе там! Відаць, даваў рады. Маладым то быў я о-го-го! Толькі рабіў усё наадварот. Казалі не піць — піў. І то яшчэ каб больш. І не шкодзіла. Бачыш, жыву. Расею прайшоў. А там усяго было. Вось і цяпер паўлітроўку асмалю, хоць і стары. А ўсё кругом свету. Толькі цяпер галава ішла б, а ногі не. Курыць не варта, вядома ўсім. Здароўю шкодзіць. А я смаліў з маладых год, як чорт дарогай. Адну слабасць меў, надта ж любіў прыроду. Не рабіў ніколі зла птушкам і звярам.

— Хварэў, дзед?

— А што ты! Абыходзіла мяне хвароба. Пэўна, у спісках не лічыўся, бо жыў інакш як усе. Ой, вінаваты, аднойчы захварэў: высыпка на целе. У Беластоку ляжаў. Жонка рыхтавала ўжо ў апошнюю дарогу. Толькі вось сама першай пайшла. Валачыўся я па жыцці, як цыган, на месцы не сядзеў. Мабыць, таму так доўга і жыву: смерць не ведае, дзе шукаць. Толькі ведай, на старасці адна бяда — адзіноцтва. Калі ў хаце адзін як кол, можна ашалець. Былоката прыжыў. Прыгожы коцік, разумны. Кайткам назваў. Скажу: хадзі Кайтак — ідзе. Сядзь на каленях! Сядзе. Хочаш шпэрку? А ён „мяў". І вось ад гэтай самоты прыдбаў сяброўку. Не, не, не смейся. З гэтым ужо нічога, рэнтыстам стаў. Толькі пагаварыць, каб было з кім. Ну і цяплей. Інакш, у гэткі мароз, акалець давялося б.

І, падпіраючыся кіем, пайшоў дзед па сваё піва.

**Г. Мароз**

*

Няшмат з вышэй напісанага ведаў я ў восеньскі дзень 1983 г., калі першы раз апынуўся на Ракавіцкіх могілках. Крыху пахадзіў я па алейках, паглядзеў (магільнік, я ж казаў, пекны) і пайшоў у адміністрацыю, дзе расказаў аб сваёй справе. Відаць, мае вывады былі даволі пераканаўчыя, бо жанчыны, што там працуюць, ахвотна аддалі ў мае рукі дзве кнігі, якія звычайна сцерагуць ад чужых вачэй. Шукаць я мусіў не вельмі доўга. Вось што знайшоў з дапамогай ветлівых працаўніц адміністрацыі:

У „Księdze zmarłych (wojskowa) od 1888 do 1921" — l.b. 756, Aleksander Pruszyński, urzędnik Wojs[ka] Białorus[kiego].

У „Księdze zmarłych w 1920 roku" — l.b. 3077, pas 33 A, rząd 2, grób 54, wiek niewiadomy, zmarł 28 VII, pochowany 30 VII parafia — Szpi[tal] Okr[ęgowy].

Думаю, што гэтым запіскам можна спакойна паверыць, дык пацвярджаюць яны дату, пададзеную Гарэцкім. З гэтымі дадзенымі схадзіў я цэлы пояс 33 А, ногі схадзіў, з далакопамі гарэлку піў, а ўсё ж магілы нумар 54 не знайшоў, хоць ты плач. Давялося паклікаць на дапамогу Караліну. Караліна Гродзіска-Ожуг гэта не абы-хто, яна напісала аб Ракавіцкіх могілках тоўстую кніжку. У час нашых супольных пошукаў мы ці раз палі духам, ды нарэшце ў кастрычніку 1984 г. спыніліся над маленькім узгоркам, паміж магіламі пераведзенага на пенсію палкоўніка Станіслава Сакалоўскага (нумар 53 у „Księdze wojskowych") і паручніка I стралковага палка Баляслава Славіка (нумар 55). „Гэта тут" — сказала Караліна. Я яшчэ сваім вачам не верыў. Узгорак маленькі, на некалькі сантыметраў, зарослы зеллем, без крыжа ці таблічкі з прозвішчам. Дык тут Сакалоўскі, там Славік, пасярод мусіць быць нумар 54 — Прушынскі. Цуд Боскі, што не раскапалі. Быццам адурманелы альпініст, улез я на Алесеў „капец", як заваёўнік. Вось такі знайшоў! Караліна гаворыць нясмела аб святатацтве. Цалую Караліну. Знайшлі!

Потым удалося мне яшчэ трапіць на кнігу кватэры. Адказны працаўнік могільніка пацвердзіў, што магіла ніколі не была раскапана, і нанёс прозвішча Прушынскага на план, на якім дагэтуль магіла Гаруна была адзначана як невядомая.



**Аўтар артыкула над магілай Гаруна.**

Заказаў я тры тачкі зямлі, Вальдэк — таблічку, Яцэк і Марэк прывезлі з лесу белую бярозку і зрабілі з яе крыж, які мы з Мар'юшам паставілі ў свята памерлых на магілцы паэта. Запалілі свечкі. Невядома хто ўбіў адразу ў зямлю памятны сцяжок. Столькі зрабілі мы з польскімі сябрамі. Думаю, добра было б больш. Колькі гэта ніхто не наведаў Алеся, кветак яму не прынёс, свечкі яму не запаліў. Год за годам дажджы размывалі ягоную магілку, ажно засталася яму толькі жменька чужое зямлі. Няўжо вечна яму гараваць?

**Алег Латышонак**

*P.S. Ганарар за гэты артыкул прызначаю на Беларускі музей.* *А.Л.*

**ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ**

# ГАНКА

...Ну і ўзялі нас на работы ў Германію. З нашых тут была Ліда Зубрыцкая з Баб'яй Гары. Сярод нас тут была таксама старэйшая ўжо дзеўка Дуська. А мне было шаснаццаць... А ў гэтае Дусі быў хлопец, немец. Як яго бралі на фронт, яна яго фатакартачку з'ела, каб і ёй, і яму не было капут. Ну, вось і гэтая Дуська зацяжарыла з ім... Ну, мы ездзілі пасля работы самаходам на кухню. На пава-роце закінула нас, і я паляцела на тую Дусю. Як яна кінецца на мяне, за косы, нагамі, дзярэ і крычыць: ты курка, і таўчэ мяне, а я баранюся.

— Якая я курка, я ж яшчэ дзіця, — крычу я. — Гэта ты, нямецкая курка, трыбухатая ходзіш!

Калі мы прыехалі на кухню, Дуся пабегла паскардзіцца да оберлёйтнанта. Я ўзяла з сабою канку супу (для хворай сяброўкі), а Дуська, раз'юшаная, прэ за мною, ругаецца, таўчэ мяне каленам у задніцу.

Заехалі мы дахаты. Заходзіць да мяне Яніна і кажа, што кліча мяне оберлёйтнант. Іду, ледзь жывая. Дуся па-нямецку шварголіць, расказвае. Пытаюцца мяне, Яся заступаецца, аж плача, я таксама. Нарэшце обер надзеў шапку, зашпіліў пасачак пад барадою, узяў карабін на плячо, сказаў усім, каб пачакалі, а мяне вывеў на сметнік. Адышоў на 4 крокі, мерыцца ў маю галаў, стрэліў. Порахам, дымам мне забіла дух, я, падаючы, чую: нічога не баліць, пэўна, жыць ужо не жыву...

Дзяўчаты вокнамі глядзелі, баяліся, а цяпер прыбеглі. Завалаклі мяне на ложак. Чатыры дні я не магла прыйсці ў сябе. Прыдзе немец, будзіць на работу крычыць аўфштэен, анцэль, аўстрэтэн... а я прыпаднімуся з ложка і падаю назад. Тады ён кажа: гэй, шляфен, і мяне не чапае...

Неўзабаве і рускія прыйшлі. Пакуль нас вызвалілі, немцы Дусю, яшчэ да радоў, вывезлі кудысь, і аб ёй я не чула болей нічога...

Нядаўна я іду па Гайнаўцы, каля могільніка, а перада мною якаясь жанчына. Я яе дагнала, а проці нас ідзе хлопец, беленькі, прыгожы, вельмі хораша адзеты. Усміхаецца нам і пытае па-нямецку, якая дарога вядзе ў горад (бо тут якраз скрыжаванне дарог). Кажу: налева. Направа — нах вальд, у лес, значыцца. А як дайсці да бангофа? Я яму: так і так. Падзякаваў малады турыст, усміхнуўся, пайшоў. А жанчына стаіць перапалоханая.

— Ох, Божа мой, — кажа. — Каб не вы, як ён загаварыў па-свойму, то я б у лес з перапалоху ўцякла. А адкуль вы ведаеце гэту мову?

Ведаю. А сорак год якраз, як я па-нямецку не загаварыла. А як спакойна я размаўляла. Спакойна. Ад мае смерці ў Германіі так мне сэрца і змарнавалася, а яшчэ столькі мучэння пасля я ў жыцці прайшла, а ўсё спакойна гавару...

**Міра Лукша**



# СЫН „ЯГАЙЛЫ"

**Наш чытач др. Ежы Альшэўскі, навуковы супрацоўнік і жыхар Белавежы, прыслаў нам апісанне цікавага здарэння.**

Слаўны і магутны „дуб Ягайлы", які рос у Белавежскім нацыянальным парку, зваліўся раніцай 31 кастрычніка 1974 года, напярэдадні свята памерпіых.

Над Белавежскай пушчай і ўсёй Польшчай праходзіла тады вельмі глыбокая атмасферная дэпрэсія (ніж), атмасферны ціск апаў тады да 967 hPA (725 мм), што здараецца наогул даволі рэдка. Парывісты паўднёва-заходні вецер нізка гнаў хмары, якія абсыпалі і аблеплівалі ўсё мокрым снегам пры тэмпературы паветра ніжэй 0°.

Пахілены дуб-волат, сведка падзей пяці стагоддзяў, лёг на пушчанскі мох...

Праз некалькі дзён я пайшоў у запаведнік, каб паглядзець на яго. І так, стоячы і раздумваючы аб мінулым, я раптам убачыў на лясной падсцілцы жалуды. Незвычайна вялікія, цыліндрычныя, якія бываюць што некалькі год у гэтым месцы. Я сабраў іх, магчыма нават механічна, ведаючы толькі, што яны тут апошнія. Апошнія? Але ж яны на тое і нарадзіліся, каб у „Ягайлы" былі нашчадкі!

Разам са Станіславам Бароўскім, леснікомпенсіянерам, заслужаным у ахове прыроды, мы закапалі 10 сабраных жалудоў у агародзе, каб перазімавалі. А летам наступнага года былі ў нас ужо два дубкі. На жаль, адзін з іх праз некалькі тыдняў загінуў. Той, што ўтрымаўся, рос на працягу васьмі гадоў пад клапатлівай апекай Станіслава Бароўскага. Ён і назваў гэтае дрэўца „ягелончыкам".

І вось надышоў час перасадзіць дубок у больш адпаведнае месца. Мы прыйшлі да вываду, што найлепшы быў бы батанічны сад Белавежскай геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта. Яе кіраўнік прафесар Я. Фалінскі 10 лістапада 1982 года афіцыяльна пераняў апеку над далейшым жыццём „ягелончыка".

На дзесяцігоддзе смерці „дуба Ягайлы" пад канец 1984 года яго нашчадак меў ужо роўна 2 метры вышыні, як відаць на здымку. Усё гэта сведчыць аб тым, што праявіўся новы аб'ект прыроды, ды яшчэ і гістарычны, беручы пад увагу яго паходжанне. І, магчыма, калі-небудзь будуць яго таксама наведваць турысты, як гэта было з яго бацькам „дубам Ягайлы".

Здарылася так, што кароткага чалавечага жыцця хапіла, каб ахапіць два пакаленні дуба — апошнія гады жыцця „дуба Ягайлы" і першыя гады жыцця яго сына. А можа гэта мае і яшчэ нейкае значэнне?

**Ежы Альшэўскі**
Фота Артура Дамашэвіча

### НАЙЛЕПШЫ ТЫ, КАЛІ МАЎЧЫШ

Калі маўчаў ты цэлымі гадамі,
Нічога не пісаў, не друкаваў,
Тады з усімі ў згодзе быў сябрамі,
Ніхто цябе не лаяў, не кранаў.

Калі здзівіў усіх уздымам новым,
Дык добрым быць ты сілішся дарма.
Цябе ўжо лаюць: пішаш бесталкова,
І сораму ў цябе зусім няма.

Не пераймайся, панцыр чарапахі
На плечы толькі трэба апранаць,
Тады ў цябе зусім не будзе страху,
Што раптам нехта зможа растаптаць.

А вось калі ты не напішаш слоўца,
Слухмяны будзеш, быццам бы малыш,
Цябе ізноў пагладзяць па галоўцы.
Найлепшы ты, калі маўчыш.

**Віктар Швед**

**ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ**

# ЗАБЛЫТАНЫ ЛЁС

Ногі пад ім угіналіся, рукі трэсліся, а разгубленыя вочы перасоўваліся па акрываўленых трупах, якія запаўнялі гэты грузавік. Андрэй баяўся, каб дзе-лень няхочучы, выпадкова не наступіць на цела нейкага мёртвага чалавека. А тут і нагі не было дзе паставіць. На хвіліну спыніў свой позірк на маленькім хлопчыку, які безуладна перакуліўся на бок, быццам бы заснуў. З выгляду мог ён мець не больш чатырох-пяці гадзікаў. Нахіліўся над ім, паспрабаваў адвярнуць галоўку да сябе. На пальцах пачуў нешта ліпкае. Была гэта кроў.

**— Гэта не тое! — пачуў за сабой голас нямецкага санітара, які даволі добра гаварыў па-польску. — Вось там! — паказаў ён на правы бок. Андрэй** Цабай паглядзеў туды і тады толькі заўважыў маладую, чарнявую жанчыну, якая трымала на руках нейкі клунак, падобны на грудное дзіця, спавітае пялёнкамі.

Асцярожна пераступаючы цераз пабітых салдат, Андрэй нахіліўся над гэтай жанчынай. Цэлыя яе грудзі былі папэцканы крывёю, твар засланялі валасы, якія звісалі з пахіленай галавы. Андрэю чамусьці здалося, што яна толькі заснула, або патраціла свядомасць. То ж дзіцё ў яе на руках спачывала, як у сапраўднай маці, якая толькі што закончыла карміць сваю крушынку. Андрэй далікатна ўзяў яе за плячо. Пад рукою пачуў халаднаватае цела мёртвага чалавека. Цела безуладна паддавалася пад рукою.

— Хутчэй там! — падганяў яго санітар.

**Гэты рашучы голас вярнуў селяніна да суровай рэчаіснасці. Ён зноў ясна ўцяміў, дзеля чаго тут апынуўся. Хутка перавёў свой позірк на дзіця ў пялёнках.** Там, дзе павінна была знаходзіцца галоўка, адкрыты тварык і вочкі, Андрэй убачыў нешта чырвонае, быццам кроў, з-пад якой вырывалася паветранае булькание.

„Яно ж зараз захліпнецца!" — з трывогай падумаў селянін. — Трэба чымсьці абцерці гэтую кроў з вуснаў!"

На жаль, пад рукою не знаходзіў нічога прыдатнага дзеля таго. Паглядзеў бездапаможна на свае мазолістыя рукі, але пабаяўся голай далонню дакранацца да чалавечай крыві і да дзіцячага твару. Часу на роздум не аставалася. Дзіця сапраўды магло ўдавіцца матчынай крывёй, якая, сплываючы з галавы жанчыны, трапляла проста на твар дзіцяці, закутанага ў пялёнкі, а гэтыя пялёнкі, як звычайна, утваралі вакол галоўкі своеасаблівую лодачку і яна напаўнялася матчынай крывёю. Добра, што не дайшла яшчэ да носіка і дзіця магло займаць паветра носікам.

**Дзядзька Андрэй аж на пальцы нацягнуў рукаў сваёй белай даматканай ільнянай кашулі і**

# ПАТРЭБНАЕ ПАГАДНЕННЕ

(Працяг са стар. 1)

*

Пераканаўся я ў гэтым, праводзячы дзень з дзецьмі з вёскі Фасты. **Калісьці была гэта зусім тыповая падбеластоцкая беларуская праваслаўная прыхадская вёска.** У пачатку пяцідзесятых гадоў на палях вёскі Фасты пабудавалі аграмадны тэкстыльны камбінат „Фасты", які стаў сімвалам сацыялістычных пераўтварэнняў і грамадскага росту адсталай Беласточчыны.

Зразумела, што і вёска Фасты апынулася ў зоне ўздзеяння вялікага „суседа". Адміністрацыйна яна яшчэ да сёння астаецца за межамі горада Беластока, хаця Беласток з Фастамі ўжо спалучае гарадская аўтобусная лінія.

— Божа мой! — скардзілася мне адна карэнная жыхарка гэтай вёскі. — Перамяшалася ў нас і „*польскае*" і „*рускае*", што не разабраць цяпер, хто які. Адно яшчэ ў царкве пазнаеш хто „*свой*".

*

Далей на захад ад Фастаў няма ўжо праваслаўных вёсак. Абазначае гэта адначасова, што тут трэба шукаць цяперашняй мяжы, раздзяляючай заходніх і ўсходніх славян.

Гэтае пагранічча асабліва падатліва асіміляцыйным уплывам. Беларуская нацыянальная меншасць, на жаль, на гэтым траціць. У Фастах, для прыкладу, ужо амаль зусім не чуваць па хатах мясцовай беларускай гаворкі. Усе дзеці, як сцвярджае святар А. Гутоўскі, гавораць выключна па-польску.

*

І вось тут зусім неабходная наша супольная місія, якую ў Фастах распачаў і праводзіць айцец Анатолій Гутоўскі. Гэта параўнальна яшчэ малады чалавек, выхаваўся ў Беластоку, у шчырай беларускай сям'і, бацькі яго паходзяць з-пад Ялоўкі. Ён сам багаслоўскую практыку на працягу 14 гадоў здабываў у Браневе на Мазурах. У Фастах — ад жніўня мінулага года.

— Давялося пачынаць мне, — гаворыць айцец Анатолій, — ад найпрасцейшых спраў, скажам, ад таго, каб дзеці не саромеліся прывітаць мяне на вуліцы традыцыйным праваслаўным заклікам: „*Слава Ісусу Хрысту!*".

І гэта яму ўдалося. Цяпер, калі праваслаўныя дзеці знаходзяцца нават у кампаніі католікаў, то і так, сустрэўшы свайго пастыра, кланяюцца яму са словамі: „*Слава Ісусу Хрысту!*"

Пасля была падрыхтоўка да **святочнай ёлачкі.** І дзеці зноў пачулі роднае слова іх бацькоў і дзядуляў. Яно было, напрыклад, у традыцыйных **калядках.** Адна з іх пачыналася так:

*„Добры вечар гаспадару!*
*Радуйся, радуйся зямля:*
*Сын Божы нарадзіўся!*
*Засцілайце стол і кладзіце*
*сена..."*

Святочная вечарына ля ёлкі, з падарункамі, якія падрыхтавалі бацькі, са спевам калядак адбылася ў царкве.

Калі ў вучняў выпаў зімовы перапынак у вучобе, айцец Анатолій наладзіў для іх гэтую экскурсію. Сабралася амаль 50 дзяцей ва ўзросце — ад **нулявога класа** пачатковай школы да **ліцэістаў.**

У Зверках яны пачулі легенду пра Гаўрыіла-мучаніка, у Заблудаве даведаліся аб шматвяковых традыцыях праваслаўя на гэтых землях, у Гайнаўцы захапляліся хараством і велічынёю новай царквы, а ў Белавежы — наш добры сябра, **Пётр Байко,** раз'ясняў дзецям таямніцы Белавежскай пушчы.

Дзеці вярнуліся дамоў крыху змучаныя, але задаволеныя і ўжо просяць у свайго святара, каб яшчэ кудысьці з ім паехаць.

*

Святары нашы маюць вялікія магчымасці ўздзеяння на дзяцей і моладзь. Большасць з іх паходзіць з беларускіх вёсак Беласточчыны і не чужая ім нацыянальная сувязь з беларусамі. Айцец Анатолій Гутоўскі, для прыкладу, адкрыта заяўляе, што ён беларус.

Гэта вялікія каштоўнасці ў нацыянальным усведамленні нашага насельніцтва. Іх нельга адкідаць. Мы сядзім на дзвюх галінах аднаго дрэва.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



**Падапечныя айца Анатолія (ён першы справа) перад ад'ездам на экскурсію ў Белавежу захацелі сфатаграфавацца „на памяць" на фоне сваёй фастаўскай царквы.**

# ДУБРОВА БЕЛАСТОЦКАЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

24 лютага ў 11 гадзін у памяшканні кінатэатра ў Дуброве адбыўся раённы агляд у конкурсе беларускай і савецкай песні. Прайшоў вельмі ўдала і ўрачыста. Выклікаў вялікае зацікаўленне жыхароў горада. Было гэта проста радаснае свята песні. Зала не памясціла ўсіх ахвотных глядзець і слухаць, людзі стаялі на калідоры.

Арганізатарамі былі аддзел Беларускага таварыства ў Дуброве і Дуброўскі асяродак культуры. Сам дырэктар ГОКу спраўна падрыхтаваў агляд і сам вёў конкурсны канцэрт. Панавала прыемная, хвалюючая атмасфера.

У конкурсе на беларускую песню выступіла тры калектывы. Усе паказалі высокі ўзровень і спявалі прыгожыя песні. Таму камісія пад кіраўніцтвам Аляксандра Рафаловіча — інструктара ГП БГКТ наступным чынам ацаніла ўдзельнікаў: I месца і 2 тысячы злотых атрымаў калектыў з вёскі Грабяні, II месца і 2 тысячы злотых — калектыў з калоніі Хілімоны і III месца і 1500 злотых — калектыў з вёскі Хілімоны.

Камісія прызнала ўсе тры дуброўскія калектывы годнымі выступіць на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-85".

З прызнаннем хочам адзначыць вялікае заангажаванне ў культурна-асветную дзейнасць Дуброўскага ГОКу, які прызнаў другую і трэцюю ўзнагароды беларускім калектывам, выступаючым у аглядзе. Першую ўзнагароду даў ГП БГКТ.

Такое супрацоўніцтва, верым, прынясе добры, вялікі плён на карысць усяго грамадства, чаго ад шчырага сэрца Дуброве жадаем. (вл)

---

рукавом хуценька сцер кроў з вуснаў дзіцяці.

— Вось так! — энергічным рухам рукі паказаў ён мне, як гэта зрабіў. — А яно, гэтае дзіцянё адразу: „*А-ай, а-яй!*" — закрычала трывожным галаскам. Дык я ўжо ні на што не азіраўся. Вырваў гэтую крушынку з рук мёртвай маці, саскочыў з аўтамабіля і бягом дадому!

У хаце дзіця пераняла ў свае рукі цётка Цабаіха. Яно безупынку плакала.

— Трэба было б цябе пакупаць і накарміць, — сцвердзіла пані Яніна.

— А можа яно недзе паранена, калі аж пялёнкі на ім прайшлі крывёю! — пацікавіўся нямецкі санітар і загадаў гаспадыні пакласці дзіця на стале ды распрануць. Тады ўсе пераканаліся, што Андрэй Цабай выратаваў ад смерці нейкую дзяўчынку.

**— Дзіця здаровае, нядрэнна дагледжанае, — сцвердзіў санітар. — Толькі на ручцы, вышэй локця, мае крыху здзертую скурку і крыху прыпечаная ручка**, як бы куля яе ледзь-ледзь царапнула.

Ён дастаў са сваёй санітарнай сумкі нейкую бутэльку і нечым карычневым пасмараваў ручку дзіцяці.

— А кроў, якой тут поўна, гэта не яго, — паказаў ён на дзіця. — Кроў чужая.

— Гэта матчына кроў! — паясніў гаспадар.



**Магіла пад Міхаловам, у якой пакояцца астанкі маці, асіраціўшай маленькую дзяўчынку.**

— Дык як, бярэце на выхаванне? — нямецкі санітар звярнуўся да сялянкі. Андрэй паглядзеў на жонку, яна на яго — і так яны без слова рашылі лёс гэтай дзяўчынкі.

— Як жа ж цяпер адрачыся! — адказала цётка Яніна. — У нас жа сваіх аж чацвёра дзяцей Бог у анёлы забраў такімі вось, як гэтая дзяўчынка, — гаварыла яна, рыхтуючы ваду для купання. — Дык, можа, гэта дар Божы?

— Я ацэньваю, што гэтай дзяўчынцы не больш паўгодзіка, ну, нейкіх тры-чатыры месяцы, — заявіў санітар, мыючы рукі.

— Шкада, што мы не ведаем, як яно ахрышчана, — заклапочана адазваўся Андрэй Цабай.

— Нічога, рускі хрэст і так для нас не важны! — заявіла яго жонка. — Мы яе ахрысцім па-свойму, па-каталіцку!

І сапраўды ахрысцілі. Назвалі яе... Ну, вось, я ведаю, як яе назвалі. І ў Міхалове аб гэтым ведаюць, і ў наваколлі нават. Але гэтая, сёння ўжо жанчына, цяпер ужо маці чацвярых сваіх дзяцей, прасіла ў мяне, каб не выяўляць публічна ані яе цяперашняга прозвішча па мужу, ані імя.

— Досыць з мяне таго, што я нацярпелася ў свае дзіцячыя га-

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

рацыя беларусаў не-халопаў, але і плойма іх дзетак.

Думаю, што калі б у ваенны перыяд, у час акупацыі або ў першыя пасляваенныя гады хтосьці сказаў беларусам з Беласточчыны, што ў сямідзесятыя і васьмідзесятыя гады так радыкальна зменіцца жыццё беларусаў, дык такі чалавек быў бы ўсімі патрактаваны як безразумны фантаст-казачнік. Так, людзі не паверылі б яму! Аднак, мабыць, не паверылі б і таму, хто б некалькі дзесяткаў гадоў таму назад сказаў, што вось гэтыя косць з косці і кроў з крыві дзеці беларускай вёскі, правёўшы пяць ці дзесяць гадоў у горадзе, вярнуўшыся ў свае вёскі, не толькі з сваімі жонкамі, мужамі, дзецьмі, але нярэдка і з роднымі бацькамі не будуць гаварыць па-беларуску. Як бы было ўсяго гэтага мала, не раз старыя бацькі, жывучы на той зямлі, дзе жылі продкі-беларусы, пачынаючы ад часоў Ягайлы, будуць крывіць душой і, імкнучыся дагадзіць сваім вынарадаўленым дзеткам, стараюцца гаварыць не той мовай, якая ад вякоў зраслася з роднай зямлёй, з усімі традыцыямі і з кожнай жывой і мёртвай істотай, якая паявілася на гэтай зямлі.

**Алесь Барскі**

## БЕЛЬСКІЯ МАРЦІНЫ

У мінулым годзе ў Бельску было 284 шлюбаў.

Маладажоны — у большасці маладыя, па 18-21 гадоў.

У Бельскай гміне ў мінулым годзе памерла 400 асоб, а нарадзілася 1045 новых грамадзян.

У Бельску адбылося 187 свецкіх хрысцін, а імёны нованароджаным бацькі выбіралі найчасцей такія: Марцін, Міхась, Галляш, Вайцех, Пятрусь, Агнешка, Анна, Альжбета. На выбар імён вялікі ўплыў мае тэлевізія, напрыклад, фільм з прыгожай Аннай Дымнай, ці англійскі серыйны фільм аб каралеве Альжбеце. Рэдка выступілі імёны: Уладзімір, Казімір, Барбара.

**А. Г.**

ТАЯМНІЦЫ ВАКОЛ НАС

# ЛЯСНЫЯ САЛАТЫ



Увесь жывы свет нецярпліва чакае вясны. Нецярплівіцца таксама чалавечы арганізм. Знясілены суровымі халадамі адыходзячай зімы дамагаецца ён вітамінаў. Затрымаўся я каля кіёска з агароднінай, пазіраю праз шыбу на ранняе зяленіва і каўкаю слінку.

— Што гэтак выглядваеш? — зачапіў мяне сябра Анатоль.

— Не выглядваю, а нюхаю, — кажу яму.

— Што?

— Агуркі, памідоры... Нават адчуваю пах зялёнай цыбулі.

Сябра спачатку падазрона паглядзеў на мяне, але нюхнуў і кажа:

— Ага, фактычна пахнуць.

— Мабыць, даўно ты іх купляў? — запытаў я.

— На мінулым тыдні...

Што ж, не па кішэні нам задавальняць патрэбы арганізма толькі дарагой ранняй зелennю. Ці няма іншага шляху да веснавых вітамінаў? Вядома, спосаб ёсць, ды такі стары, як доўга жывуць людзі на гэтай зямлі. Аздараўляючае веснавое харчаванне з выкарыстаннем шматлікіх дзікарастучых раслін ведалі ўжо ў старажытнасці. Гэта толькі ў другой палове нашага стагоддзя адышлі мы ад прыроды і цяпер трэба ўзнаўляць усё ад пачатку.

Надыходзячая вясна штодня будзе прыносіць усё новыя і новыя порцыі зялёных дабрадзействаў, якія можна ўвесці ў штодзённае спажыванне. Існуе многа смачных і багатых вітамінамі раслін, толькі трэба спазнаць таямніцы іх кулінарнай прыдатнасці.

Самая ранняя ядомая расліна — гэта крапіва. Пачынае яна расці, як толькі некалькі дзён утрымліваецца тэмпература 5-7°C. Не перашкаджаюць ёй нават значныя прымаразкі. Падрабязна пра крапіву напішу ў наступным нумары „Нівы“, аднак ужо сёння варта сказаць пра яе прыдатнасць у харчаванні. Крапіва надаецца на боршч і салату.

Хто не верыць, што салата з крапівы смачная і вельмі здаровая, то няхай выпрабуе такі рэцэпт. Сабранае маладое зелле крапівы трэба апарыць кіпетнем і дробненька пакрышыць, дадаць падсмажанай цыбулі, убіць 1 яйка (на кожную порцыю салаты) і падсмажыць на лёгенькім агні. Трэба старацца моцна не перагравацць — усяго столькі, каб спёкся бялок яйка — даўжэйшае трыманне на гарачым давядзе да страты вітамінаў. Сасмажаную крапіву падаць як дадатак да другой стравы або як вітамінны дадатак на снеданне ці вячэру.

Ранняй вясною паяўляюцца таксама лісці дзьмухаўца (лацінская назва — Taraxacum officinale Wigg, польская — mniszek lekarski, руская — одуванчик, на Беласточчыне часта завуць яго — малачай). Між іншым, у Францыі гэтую расліну вырошчваюць у агародзе. З лісця дзьмухаўца таксама нарыхтоўваюць смачную салату гэтак сама, як і з праўдзівай салаты. Каб ліквідаваць уласцівую дзьмухаўцу гаркату, лісці трэба хвіліну (да 3 мінут) заварыць у кіпетні або намачыць на 6-10 гадзін у салёнай вадзе (на 1 літр вады даём паўшклянкі солі).

Салату нарыхтоўваюць таксама з маладога лісця сныткі звычайнай (лацінская назва — Aegopodium podagraria L., польская — snitka, podagrycznik pospolity, руская — сныть обыкновенная), маладзенькага лісця ліпы, маладога лісця і парасткаў барбарысу звычайнага (лацінская назва — Berberis vulgaris L., польская — berberys zwyczajny, руская — барбарис обыкновенный), шчаўя і іншых. Надта каштоўная частка лясных салатаў — гэта таксама трыпутнік ланцэталісты (лацінская назва — Plantago lanceolata L., польская — babka lancetowata, руская — подорожник ланцетолистный). Лісце трыпутніка, сныткі, ліпы і барбарысу або кожнае паасобна, або іх сумесь можна квасіць як капусту. Пры квашанні дадаем ліст мяты, кмен (лацінская назва — Carum carvi L., польская — kminek, руская — тмин обыкновенный), кроп, лаўравы ліст — паводле індывідуальнага густу. Квашаная лясная салата — смакавіты, багаты вітамінамі, здаровы і танны дадатак да другой стравы.

Б. Тайзлер рэкамендуе такую лясную салату, якая не толькі хутка папаўняе недахоп вітамінаў у арганізме, але таксама дзейнічае амаладжваюча і рэгулюе абмен рэчываў. Салату рыхтуюць з больш-менш роўнай колькасці лісця і карэнняў дзьмухаўца, трыпутніку ланцэталістага, шчаўя і лісця падбелу звычайнага (лацінская назва — Tussilago farfara L., польская — podbiał, руская — мать-и-мачеха обыкновенная). Памыўшы, сумесь трэба дробненька пакрышыць і пасаліць. Да смаку дадаюць цыбулю, алей або смятану. Вымешаўшы, салату трэба паставіць на паўгадзіны, затым можна спажываць як дадатак да бутэрбродаў (канапак) на снеданне і вячэру.

Увага! Лясныя салаты на пачатку трэба есці пакрысе, першы дзень не болей як дзве сталовыя лыжкі аднаразова, у наступныя дні порцыю можна паступова павялічваць.

Прыемнага апетыту!

**Б. Паскробка**

Мал. Б. Альшэўскага

(Працяг са стар. 7)

# ЗАБЛЫТАНЫ ЛЁС

ды. Куды не пайшла, усюды за плячыма чула: „Глядзі, вось гэтая „саветка“, „кацапка“!

— Ад гэтага яна нервы патраціла, — бароніць яе муж. — Калісьці па тэлебачанні паказвалі такі фільм, як адна руская жанчына шукала сваё дзіцё і знайшла ўрэшце сына ў Кракаве. То яна, — паказвае вачыма на жонку, — раўла тады, як апантаная. Прыйсці ў сябе ніяк не магла.

— Ці гэта значыць, што і вы таксама хацелі б знайсці свайго сапраўднага бацьку? — запытаў я, а яна паглядзела на мяне вачыма, мокрымі ад слёз, і неяк сумна адказала:

— Я ўсёй душою прывязана да Цабаёў, якія мяне выхавалі! Ніколі інакш пра іх не думала і не думаю, як аб сваіх родных бацьках. Каб вы ведалі, як тата з мамай баранілі мяне, калі пасля вайны рускіх дзяцей забіралі ў Савецкі Саюз. Яны не хацелі мяне аддаць...

Аб гэтым я ведаю і пастараюся дакладней расказаць, але іншым разам. Цяпер астануся яшчэ пры заблытаным лёсе гэтай жанчыны з Міхалова.

— Ад іх, — гаварыла яна, — ад маіх бацькоў, я ніколі не пачула аніякага дакору, што я быццам бы „саветка“ ці „кацапка“. Гэта іншыя людзі — некаторыя суседзі ды іх дзеці атручвалі мне жыццё. І таму я не хачу, каб ад гэтага цярпелі яшчэ і мае дзеці. Я іх выхавала так, як і мяне бацькі навучылі: у чыстай, рымскакаталіцкай веры, я лічу сябе полькай і дочкі ў мяне полькі. Дык каго мне шукаць?

— Значыць, вашы дочкі зусім нічога не ведаюць аб вашым заблытаным лёсе? — пацікавіўся я.

— Ведаць — ведаюць, бо ў такім мястэчку, як Міхалова, дзе кожны ведае кожнага, нішто не затоіцца! — кажа яна, а муж дапаўняе:

— Але жывем мы як прыкладныя палякі і каталікі, дык ніхто не чапляецца да нас, хаця я сам..., — ён заікнуўся, як бы не ведаў, што сказаць і ці сказаць, — хаця... я сам з праваслаўнай сям'і.

Ці можна яшчэ мацней заблытаць чалавечы лёс? Я ўжо раней ведаў, што ён з праваслаўнай сям'і. Такое штосьці не магло не выклікаць зацікаўлення ў мясцовых цётак. То ж людзі проста чагосьці такога тут не чулі, каб даўнейшая „саветка“ патрабавала ад праваслаўнага хлопца перахрысціцца ў каталікі! Маці хлопца не згаджалася, а дзяўчына, Цабаёвая выхаванка, не ўступала. Хлопец адносіўся даволі абыякава да ўсялякіх рэлігійных прынцыпаў і не паслухаў сваёй маці, не хацеў патраціць дзяўчыны, якая яму спадабалася.

— Я дрэннага слова пра свайго мужа сказаць не магу! — з поўным перакананнем заяўляе жонка.

— І я — таксама! — дабаўляе муж. — Яна ў мяне працавітая, дбайная. Мне часта даводзіцца па службовых справах бываць у раз'ездах, а яна тут адна з дзецьмі. І ніколі не скардзіцца, што ёй цяжка, з усім спраўляецца выдатна, ды яшчэ і бацькам на хутары часта дапамагае.

— А шукаць? — адазвалася яна. — Чаго шукаць? Дзе шукаць?

Яна зноў дрыжачымі рукамі падняла хустачку да вачэй і носа. Я разумеў, што сапраўды ёй цяжка, што як мага хутчэй трэба мне пакінуць гэтую скромную кватэру на адной з галоўных вуліц у Міхалове.

— То ж яны ў магіле, тут, за Міхаловам! — хліпаючы, выціснула яна з сябе. — Там іх трэба шукаць.

— Адкуль вы ведаеце аб гэтым?

— Сам тата, значыць, Андрэй Цабай, — спахапілася яна, — казаў мне, што забраў мяне з рук мёртвай мамы... А з мамай напэўна быў і тата... І яшчэ брацік маленькі, чатырохгадовы... — яна расплакалася ўжо ўголас. — Каго мне шукаць? Хіба ў гэтай магіле...

Гутарку давялося спыніць, бо і ў мяне слёзы паявіліся ў вачах. Але нявырашаныя пытанні засталіся. Да іх вернемся наступным разам.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Уладзімір Юрэвіч

## СОНЕЙКА

Надышло прадвесне — тая пара, калі ўдзень моцна прыгравае сонейка, а ноччу яшчэ добра падмарожвае. І калі раніцай выйдзеш на вуліцу, яна нагадвае каток. Хоць ты бяры канькі і коўзайся проста каля дому.

Сёння таксама падмарозіла: у вокны глядзела чырвонае-чырвонае сонейка. Дрэвы апушыліся інеем. Зірнуў Тараска ў акно і аж знямеў. Казачнае царства, дый годзе. Яму захацелася пабыць там, у гэтым царстве.

Тараска надзеў куртку і хуценька выбег з дому, крыкнуўшы на ходу бабулі: „Я зараз!"

Па ходніку ішлі і ішлі людзі. Не, не ішлі, а ледзь-ледзь рухаліся, асцярожна перастаўляючы ногі. Было вельмі слізка. Час ад часу хто-небудзь узмахваў абедзвюма рукамі і прытоптваў моцна нагой. Як у танцы. Але які тут танец, калі трэба пільнавацца, каб не прызямліцца.

З-за вугла выйшла дзяўчынка. У правай руцэ ў яе была сетка, поўная шкляных слоікаў. У другой — карычневая сумка, а з яе вытыркаліся горлачкамі бутэлькі з-пад малака. Дзяўчынка ступала маленькімі крокамі, пераважваючыся ўвесь час на правы бок.

Вось яна на адзін толькі міг, як здалося Тараску, глянула ў яго бок і пакаўзнулася. Ды так моцна, што не ўтрымалася на нагах і прысела зноў жа на правы бок. Шкляны звон аддаўся рэхам каля дому.

Тараска і не згледзеў, як усё гэта здарылася. Толькі бачыў, што дзяўчынка ўраз неяк падхапілася і залілася слязьмі. З сеткі выпалі долу кавалачкі разбітага шкла.

Тараска кінуўся да дзяўчынкі:

— Разбіла?

— Ага.

— Не плач. Не трэба плакаць. Давай глянем, ці многа пабілася.

І яны прыселі на кукішкі, даставалі кожны слоік, кожную бутэльку, абмацвалі, разглядалі на сонца.

— Бачыш, усё цэлае, — суцяшаў Тараска. — Усё, толькі адзін слоік... Не, два...

А дзяўчынка ўсё хліпала.

— Не плач, чуеш... Я зараз збегаю дадому і прынясу не два, а, калі трэба, нават тры слоікі...

Пакуль дзяўчынка выцірала слёзы, нос, пакуль апамяталася, як след, Тараска ўжо злётаў дадому і прынёс адзін паўлітровы слоік, а другі крыху большы.

Тараска глядзеў на дзяўчынку і вачам сваім не верыў. Перад ім стаяла нібы сонейка, такое, як малююць у кніжках. На белым тварыку лёгкая чырвань, з-пад белай пуховай шапачкі выбіваліся залацістыя кудзеркі валасоў. Вялізнымі блакітнымі вачамі дзяўчынка нібы пыталася, нібы прасіла прабачэння...

— Спужалася? — запытаўся Тараска.

— Не, — адказала дзяўчынка і крыху збянтэжана апусціла вочы.

— Пасуду здаваць нясеш на скуп?

— Ага.

— Табе ж цяжка, мусіць... і нязручна? Дай мне сетку, — прапанаваў Тараска.

Дзяўчынка зноў здзіўлена паглядзела на Тараску. Колькі яна носіць здаваць пасуду, ніхто ніколі не ўбачыў, што ёй цяжка ці нязручна. А тут?

— Нашто так шмат набіраць?

(Працяг на стар. 10)

Вольга Іпатава

## КАЗКА ПРА ПАЎЛІНА

*У горадзе Птушыным*
*На вуліцы Жураўлінай*
*Паміж кустоў ажыны*
*Жыла сям'я Паўлінаў.*

*Быў міліцыянерам*
*Паўлін-старэйшы — тата.*
*Матуля — інжынерам*
*У цэху „Пух і вата".*

*І паслухмянай птушкай —*
*Заўжды на радасць маці —*
*Вучылася дачушка*
*На хлебным камбінаце.*

*І быў сынок таксама.*
*Даўно закончыў школу*
*І бавіў час з бусламі*
*Ў кампаніі вясёлай.*

*Трымаўся ганарыста,*
*І вось з якой прычыны:*
*Быў гожы, прамяністы,*
*Хвост у таго Паўліна.*

*Як мыўся ён на золку,*
*Старанна чысціў пёры,*
*Здавалася — вясёлка*
*Сышла на панадворак.*

*Зялёны колер, белы,*
*І залаты, і сіні...*
*Усе па вуліцы беглі,*
*Бывала, за Паўлінам.*

*Вось толькі да работы*
*Не меў Паўлін ахвоты:*
*— Я гэтакі прыгожы!*
*Мне працаваць не гожа!*

(Працяг на стар. 10)



Крысь Абрамюк з Тыневіч яшчэ толькі ў наступным годзе пойдзе ў школу. Але ён вельмі любіць, калі мама чытае яму казкі з „Зоркі". Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

## СМАЧНАЯ КАША

КАЗКА

У лясной хатцы жыў Пячны Чыгун — моцны, чыгунны гаршчок, на агні пракалены, з бакоў пракопчаны. Раніцай ён улазіў у печ і варыў кашу. А зварыўшы, перабіраўся на стол і карміў лесніка і яго дзяцей.

Прыслухаўся аднойчы Чыгун, аб чым гавораць паміж сабою дровы ў печы. Дзіўна, колькі яны чулі і бачылі на сваім вяку. Усе таямніцы лесу, галасы звяроў, шолах ветру і яшчэ шмат-шмат іншага было ім знаёма. Бо калісьці і яны былі не проста бярозавымі ці сасновымі дровамі, а сапраўднымі бярозамі ды соснамі. Па іх галінках скакалі вавёркі і птушачкі. Пад імі бегалі зайцы і лісы, а воўк і мядзведзь, здаралася, нават адпачываць прысаджваліся.

Безупынна трашчалі дровы ў печы, успамінаючы свой лес і яго жыхароў.

А Пячны Чыгун слухаў і слухаў. І чым больш ён слухаў, тым сумней яму рабілася.

— І што гэта за жыццё ў мяне? З печкі — на стол. Са стала — у печ. Пайду лепш я лес пагляджу, лясных звераняТ кашай накармлю.

Так Чыгун і зрабіў. Наварыў кашы паўнютка, насунуў накрыўку мацней, саскочыў з прыпечка — ды за дзверы.

Ідзе па лесе, аглядваецца — прыгажосць якая! Птушкі шчабечуць, матылькі лётаюць, па дрэвах сонечныя зайчыкі скачуць.

Ішоў Чыгун, ішоў. Змучыўся. Сеў на пянёк адпачыць. Накрыўку зняў, абмахваецца ёю: горача. І пайшоў ад кашы пах па ўсім лесе.

Пачула Рыжая Лісіца пах кашы, прыбегла.

— Добры дзень! Ты хто? — пытаецца.

— Я Пячны Чыгун.

— А я Рыжая Ліса. Што ты ў нашым лесе робіш?

— Ды вось кашы наварыў, хачу лясных зверанят-дзецянят пачаставаць. З малаком, з маслам, з мёдам і крупынкай солі.

— З малаком, кажаш, з маслам? Дык гэта ж якраз тое, што я люблю.

— Вось і добра, — уцешыўся Чыгун, — еш на здароўе. І іншых зверанят сюды кліч!

Усадзіла Ліса лапу ў Чыгун, лізнула кашу і ахнула:

— Якая смачная! Нікога я не паклічу! Усё сама з'ем! — Абхапіла Чыгун дзвюма лапамі, зараз усю кашу з'есць.

Бачыць Чыгун — кепская справа. Крутануўся, мазнуў Лісу закопчаным бокам па носе. Яна чхнула і выпусціла яго.

Пабег Чыгун праз далінку на лясную палянку, па кустах. Уцёк ад Рыжай.

(Працяг на стар. 10)

(Працяг са стар. 9)

# КАЗКА ПРА ПАЎЛІНА

*Я лепей пагуляю!*
*Знайду яшчэ занятак!*
*Даволі, што працуюць*
*Сястра, матуля, тата.“*

*Аднойчы Перапёлку*
*Сустрэў ён каля сквера,*
*Яна хадзіла ў школу*
*Краўчых і мадэльераў.*

*Галоўка ў колер руні...*
*А грацыя якая!*
*Сказаў Паўлін красуні:*
*„Я ж так цябе кахаю!*

*Прызнач спатканне, пчолка.*
*Ну хочаш, дык навечна?“*
*Смяецца Перапёлка,*
*Адказвае сардэчна:*

*„Які ў цябе занятак,*
*Скажы мне напачатку.*
*Ты вучышся? Працуеш?*
*Дзе збудаваў ты хатку?“*

*„Што я раблю? Ганяю*
*Футбол. Яшчэ танцую...“*
*Сказала Перапёлка:*
*„З такім быць не хачу я!“*

*Пайшоў Паўлін:*
*„І хвост мой*
*Не дапамог агністы.*
*Дармо ж: вось запішуся*
*Я заўтра у артысты.*
*Калі мяне пабачаць*
*На тэлеэкране,*
*Тады любая птушка*
*Дружыць са мною стане.“*

* * *

*На студыі*
*Пяро і пух шугаюць.*
*Каля люстэрка кожнага —*
*Чарга.*
*Тут таленты птушыныя*
*Шукаюць.*
*Таму ва ўсіх кутках*
*Сядзяць, чакаюць:*
*Ад савянят малых*
*І да гагар.*

*Паўлін праходзіць*
*Міма ганарыста.*
*Каму ж, як не яму,*
*Тут быць артыстам?*
*Што Курыца?*
*Што нейкі Каралёк?*
*Паўлін усім відаць*
*Яшчэ здалёк.*

*Вось Мухалоўка*
*Падыйшла ціхутка:*
*„Я студыю ад мух*
*Ачышчу хутка!“*
*А Папугайчык кажа:*
*„Я ж, дарэчы,*
*Умею гаварыць*
*Па-чалавечы!“*

*А Вярціхвостка:*
*„Я паспею разам*
*Ва ўсе глядзецца камеры*
*Адразу!“*
*Сініца кажа:*
*„Не баімся мы*
*Ні восені халоднай,*
*Ні зімы.“*

*Заранка гнутка*
*Выгінае спінку:*
*„Спяваю я ўвесь дзень,*
*Без перапынку!“*
*І вось Паўлін*
*Ідзе у павільён.*
*Аж ліхтары*
*Зацьмій на момант ён,*
*Калі перад камісіяй*
*Наўпрост*
*Ён развярнуў*
*Свой каляровы хвост.*

*Але якая злосць пасля*
*Была,*
*Як выбрала Камісія —*
*Арла!*
*Хіба ён прыгажэйшы*
*За Паўліна?*
*Чаму яго?*
*Якая ў тым прычына?“*

*Яму тлумачаць:*
*„Не віні яго,*
*Ты прыгажун —*
*Ды толькі і ўсяго.*
*А дыкцыі ды граматы —*
*Няма.*
*Да нас прыходзіў ты, відаць,*
*Дарма!*
*Зноў пачынай*
*Жыццё сваё*
*Спачатку!*
*Не спадзявайся*
*На сястру і татку!“*

(Працяг са стар. 9)

# СОНЕЙКА

— гаварыў далей Тараска і ўжо нахіліўся, каб узяць з дзяўчынчыных рук ношу.

— А ты не паб'еш? — спыталася дзяўчынка. — На. Толькі асцярожна...

— Не бойся, — супакойваў Тараска дзяўчынку. — Мяне бабуля часта пасылае здаваць парожнюю пасуду. Давай і сумку панясем удвух — ты адной рукой і я адной.

Пакуль ішлі да магазіна, дзяўчынка расказала Тараску, што ёй яшчэ трэба купіць малака і кефіру. А як вернецца дамоў, то будзе рабіць урокі. Яна сказала, што завуць яе Соняй, а ў класе ўсе, калі звяртаюцца да яе, дык гавораць — Сонейка.

Соня так разгаварылася, нібы з Тараскам яны даўно былі знаёмыя. Яна расказала, што іхняя сям'я пасялілася ў гэтым раёне толькі на тым тыдні. Тараска назваў сябе і пахваліўся, што іхняя сям'я жыве тут ужо другі год.

Дзеці не заўважылі, як дайшлі да магазіна.

— Дзякуй, Тараска, што памог, — сказала на развітанне Сонейка. — А слоікі... — А за слоікі вялікае дзякуй. — І яна спынілася.

— Няма за што, Сонейка, — адказаў Тараска і, крутнуўшыся на адной назе, пабег дадому. Ужо адбегшыся, нібы апомніўся і крыкнуў: — Слоікі аддаваць не трэба. Я скажу бабулі пра тваю бяду...

Апошніх слоў Сонейка, мусіць, і не пачула, бо ўжо знікла ў дзвярах магазіна. Тараска бег дамоў такі ж узрадаваны, як тады, калі настаўніца паставіла яму ў сшытак па пісанню пershую пяцёрку.

(З кніжкі „Тараскавы прыгоды“)

(Працяг са стар. 9)

## СМАЧНАЯ КАША

Толькі аддыхаўся, а насустрач яму нейкі звер.

— Ты хто такі?

— Я Чыгун.

— А я Шэры Воўк. Чаго ты ў мой лес прыйшоў?

— Зверанятам-дзецянятам смачнай кашы прынёс, — адказвае Чыгун.

— Што такое — каша?

— Каша — гэта каша. З малаком, з маслам, з мёдам і трошкі з соллю.

— Вось што такое каша! — прахрыпеў Воўк. — Я якраз галодны. Папалудную тваёю кашай.

— Вядома, — кажа Чыгун, — еш на здароўе, Шэры Воўк, толькі запрасі на абед усіх зверанят-дзецянят лясных.

— Гэта яшчэ навошта? — раззлаваўся Воўк. — Я і сам дам рады. Магу і цябе з'есці з кашай! — З гэтымі словамі Воўк кінуўся на Чыгун і ўкусіў яго за пракопчаны бок.

Але бакі ў Чыгуна моцныя, чыгунныя, на агні каленыя. Зламаў Воўк самы вялікі, самы востры свой зуб і завыў ад злосці. А Чыгун выкруціўся і ўцёк ад яго.

Ідзе па лесе, адсапваецца, накрыўкай абмахваецца і думае сабе:

— Няўжо ў лесе ўсе такія? Кожны толькі пра сябе думае?

Толькі так падумаў, бачыць, ідзе звярок — маленькі, шэранькі, вочкі сумныя, вушы доўгія. Ідзе, плача, слязьмі заліваецца, вушкамі выціраецца.

— Чаго ты плачаш, шэранькі? — пытаецца Чыгун.

— Як жа мне не плакаць, — адказвае звярок. — Ліса за мною ганяецца, Воўк падпільноўвае. Ні ўдзень, ні ўначы няма мне спакою. Няма калі ні сесці, ні адпачыць, моркаўкі ці капусткі паесці. Зусім аслаб. Зловяць мяне хутка Ліса з Ваўком і з'ядуць. Вось я і плачу.

— Не плач, я памагу тваймў гору, — кажа Чыгун і скідвае накрыўку. — Вось табе смачная каша, на малацэ і масле вараная, мёдам і соллю запраўленая. Сядзіся, еш, набірайся сілы.

Панюхаў даўгавухі звярок кашу, аблізнуўся ды як скочыць на пянёк. Сеў на заднія лапкі, а пярэднімі па пяньку забарабаніў: тра-та-та-та!

З усіх бакоў на палянку пачалі збірацца такія ж зьвяркі. Абступілі яны Чыгун, давай кашу есці ды пахвальваць.

— А як жа вас завуць, зверанятки? — пытаецца Чыгун.

— Зайцы мы, — адказваюць яны, а самі кашу ламочуць.

Але бачаць яны, што не пусцее Чыгун. Колькі ні ядуць, а кашы не меншае. Дзівяцца зайцы:

— Вось дзіва! Мы ўжо наеліся, а Чыгун усё яшчэ поўны!

— А гэта таму, — кажа Чыгун, — што скупому колькі ні давай — усё будзе мала, а тым, хто гатовы дзяліцца з сябрамі, і малога хопіць.

## Пазнаёмімся

* * *

БССР, 220036, г.Мінск-36, вул. Волаха, 21, кв. 2. Рыма Маляўка, вучаніца 2 класа.

* * *

БССР, 220036, г.Мінск-36, вул. Купрыянава, 19, кв. 69. Вова Памазаў, вучань 5 класа.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 170, кв.70. Лена Пуроўская, вучаніца 5 класа.

* * *

СССР, 344080, Ростов-на-Дону, ул. Российская, 14а, кв. 32. Нестеренко Тане. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 346503, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Баумана, 35. Алексеевой Тане. 4 клас.

* * *

СССР, 346562, Ростовская обл., Усть-Донецкий район, станица Мелиховская, ул. Крестьянская, 6. Пасхаловой Любе. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Советская, 28а, кв. 37. Дудченко Тане. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, 346515, Ростовская обл., г. Шахты-15, ул. Нагорный Тупик, 7. Плотникову Алексею. Хлопчык вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, 346562, Ростовская обл., Усть-Донецкий район, станица Мелиховская, ул. Ленина, 1. Рывковой Лене. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, г. Ростов-на-Дону, Беломорский, 80/1, кв. 64. Григорьян Гриша. Хоча перапісвацца з хлопчыкам.

## Вясёлы куточак

* * *

Настаўніца:
— Віця, дай азначэнне круга.
Віця:
— Круг — гэта квадрат, у якога няма вуглоў.

* * *

Насця пытае ў малога брацікa:
— І чаму гэта ў цябе такія блакітныя вочы?
— Бо я на неба глядзеў, — адказвае брат.

* * *

— Як ты думаеш, што гэта: кветка ці дрэва? — пытае маці ў малой Наташы, паказваючы на сланечнік.
— Гэта пэсткі, — адказвае малая.

* * *

Вася:
— Чаму морква чырвоная?
Галя:
— Таму, што ёй сорамна.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Дапамажы коціку знайсці сябе на гэтай карцінцы.



Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

З „Малой студэнцкай энцыклапедыі"

## ДАЦЭНТ

Пасада дацэнта прадбачвае перш за ўсё наяўнасць салідната навукова-педагагічнага стажу. Апрача гэтага, дацэнту не пашкодзіць мець навуковую ступень доктара навук. А яшчэ лепш — габілітаванага.

Аднак вядомы выпадкі, калі званне дацэнта давалася і тым, хто такіх ступеняў не мае, — найдасведчаным і найзагартаваным вузаўскім выкладчыкам, якія апублікавалі нямала салідных навуковых доследаў, але ва ўмовах паўсядзённай вузаўскай мітусні ўсё ніяк не збяруцца афарміць іх у выглядзе дысертацыі.

Гэткі прагрэсіўны метад прысваення вучонага звання без абароны дысертацыі па-латыні называецца honoris causa (з павагі, дзеля пашаны).

На кафедры дацэнт выконвае нялёгкія абавязкі правай рукі прафесара — яго першага памочніка, намесніка і патэнцыяльнага наступніка.

А сам тэрмін „дацэнт" пайшоў ад латынскага дзеепрыслоўя „docere" (навучаць). Вось жа дацэнт — той, хто навучае. Прычым навучае не толькі студэнтаў, але і маладзейшых калег па кафедры і факультэту. Для таго, каб паспяхова навучаць іншых, дацэнту неабходна ўвесь час вучыцца самому.

Ю. Шанін









## НІЧКА

### ПЕРАСТРАХОЎШЧЫК

— Якой думкі вы пра мяне? — пытае сусед.

— З задавальненнем вам скажу, але толькі па тэлефону.

### НЕЗВЫЧАЙНЫ ДЫЯГНАЗ

У кабінет лекара ўвайшоў пажылы чалавек.

— Раздзявайцеся! — кажа лекар, не адрываючыся ад папераў.

— Але ж я...

— Хутка раздзявайцеся, бо маю часу ў абрэз! — павышае голас і прагитвае пісаць.

Мужчына неахвотна раздзяваецца. Урэшце лекар заканчвае работу

— Дык што ў вас?

— Ездавы я... вугаль прывёз.

### НЯДОРАГА

Просіць задрыпанка суседа:

— Зарэж, Іван, мне краля.

Прыйшоў. Зарэзаў. Абадраў. Задрыпанка ўсмажыла, купіла пляшку гарэлкі. Выпіў Іван гарэлку, з'еў краля. Задрыпанка пытае:

— Што ж табе плаціць за работу?

— Не трэба нічога. Хопіць і шкуркі.

### МІРАТВОРАЦ

На вуліцы сварацца двое мужчынаў:

— Вы — асёл!

— Ад асла чую!

Праходжы спыняецца:

— Ну, навошта сварыцца, калі вы сваякі?!

Усё жыццё быў перакананы, што этыка — навука пра этыкеткі.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У спартыўнай заметцы:

„Чэмпіёнка рэспублікі Юная Ларыса імкнецца хутчэй стаць дарослай, і першае, што яна зрабіла ў гэтым кірунку, абстрыгла свае косы..."

— Правільна! — прачытаўшы, сказаў балельшчык. — Добра падмечана. А то мы ў інфармацыі не падкрэсліваем індывідуальных рысаў майстроў спорту.

*

Бабулька ў тралейбусе скардзіцца:

— Вой, цяпер свет стаў такі нервенны. Дзе я толькі не была?! Дайшла аж да міністра здравахварэння...

*

У журы конкурсу на лепшае фігурнае катанне на каньках чуцен голас:

— Пастаўце вышэйшы бал. Гэта пара паказала высокае, чулае ўзаемаразуменне ног.

З „Веснiка Задрыпоніі"

### НОВАЕ Ў АБСЛУГОЎВАННІ

З мэтай паляпшэння абслугоўвання насельніцтва магазіны і прадпрыемствы службы быту горада Ачуцінава замянілі кнігу скаргаў і прапаноў — кнігай падзякаў.

### ПРЫКМЕТА

Калі дарогу вам перасякла жанчына з вядром, поўным смятаны, значыць недзе побач малочны завод.

### У СУДЗЕ

Суддзя да падсуднага:

— Вы сцвярджаеце, што кідалі ў пацярпеўшага адным памідорамі?

— Сцвярджаю.

— А чаму ў пацярпеўшага былі сінякі на галаве?

— Памідоры былі ў слоіках.

### УЗАЕМНАСЦЬ

Малады чалавек да будучай жонкі:

— Папярэджваю, мая дарагая, што шлюбнае жыццё са мною — гэта не толькі прыемнасць. Калі ажэнімся, давядзецца табе варыць абеды...

— А табе давядзецца іх есці.







## Курёзы

### ПАГОДА БАГАТЫМ І ТАКІМ САБЕ

Многія знакамітыя кіназоркі, якіх добра ведае публіка па сцэнічных і кінавыступленнях, нажываюць няўрэнны капітал... на рэкламе. Напрыклад, вядомая актрыса Элізабет Тэйлар у перапынках паміж занятками кінамастацтвам рэкламуе футравыя манто адной багатай фірмы і мае за гэта даход у 2 мільёны долараў. Фарра Фосет рэкламуе касметычныя вырабы за 6 мільёнаў долараў. Гэтак пашанцавала знакамітасцям, божым абранніцам. А вось фларэнтыйская манекеншчыца Лудовіка Рангоні Макіявелі (Італія) дык, бадай, выпадкова зрабілася мільянершай. Яе выкралі гангстэры і патрабавалі выкуп у сям'і на суму ў некалькі мільёнаў лір. А пасля, згодна з паведамленнем часопіса „Шпігель", да яе кінуліся рэпарцёры, сталі здымаць у кіно і на тэлебачанні, а адно англійскае выдавецтва вырашыла прысвяціць кнігу яе пікантным прыгодам у гангстэраў. Як кажуць, не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло.

## Смяецца з намі

Працай за ўсё падманваць таго, хто думае, што ён нас падманвае.